У МІНГАРВЫКАНКАМЕ

# ЦІ ДАПАМОЖА ЎЛАДА ПРАДПРЫМАЛЬНІКАМ?

Міхаіл ВАЛЬКОЎСКІ, «ДВ».

Шмат хто з грамадзян, каб зарабіць на жыццё, пачаў займацца прадпрымальніцтвам. Справа гэта для нас, выхаваных у іншыя часы і на іншых ідэалах, адносна новая. Ва ўсялякім разе раней такі занятак не віталі, а наадварот — улады яго забаранялі, нават каралі за яго тых, каго лавілі. Але ж час змяніўся...

Вопыт многіх прадпрымальнікаў сведчыць: каб распачаць сваю справу, недастаткова толькі схільнасці да прадпрымальніцтва, гарачага жадання ім займацца. Мала нават добрай прафесійнай падрыхтоўкі, вялікай працаздольнасці, перспектыўнай ідэі. Каб трывала стаць на ногі, разгарнуць справу, працаваць на карысць сабе і грамадству, патрэбны спрыяльная абстаноўка, добрыя законы і хоць якая, нават мінімальная, падтрымка ўлад.

У свой час сесія Мінгарсавета прыняла рашэнне аб асноўных накірунках развіцця прадпрымальніцкай дзейнасці ў Мінску, у якім такая падтрымка ва ўсялякім разе прадугледжвалася і дэкларавалася. Мінуў год. Што ж зроблена?

Для эканамічнага стымулявання прадпрымальніцтва і развіцця малога бізнесу ў гарадскім бюджэце ў мінулым годзе выдзяляліся 50 мільёнаў рублёў. Сума, згадзіцеся, не вельмі вялікая. Тым больш, калі суадносіць яе з колькасцю зарэгістраваных у Мінску суб'ектаў гаспадарання — 70 тысяч. (З іх каля 30 тысяч з правам юрыдычнай асобы, і больш 40 тысяч прадпрымальнікаў без утварэння юрыдычнай асобы.)

Аднак адзначым, што колькасць рэальна працуючых прадпрымальнікаў усё ж істотна меншая, чым зарэгістраваных. Разнастайныя цяжкасці, недасканалыя законы перашкаджаюць плённа працаваць, а сённяшняя падатковая палітыка дзяржавы не толькі не стымулюе, але і ўвогуле робіць немагчымай эфектыўную і прыбытковую працу прадпрымальніка. Дапамогі ж яму няма адкуль чакаць. Так, за мінулы год толькі 37 прадпрыемстваў недзяржаўнай формы ўласнасці атрымалі крэдыты ў Беларускім фондзе фінансавай падтрымкі прадпрымальніцтва. У сваю чаргу Нацыянальны банк выдаў крэдыт на развіццё вытворчасці сямі прадпрыемствам горада. Ускоснай падтрымкай магло б стаць аслабленне падатковага ціску, прадастаўленне падатковых ільгот прадпрымальнікам. Але і тут пахваліцца асабліва няма чым: за год з 51 пададзенай у фінансавае ўпраўленне Мінгарвыканкама на гэты конт заявы задаволена толькі трэць. Палёгку ў падатках (з улікам фінансавага становішча прадпрыемстваў і мэтавага накіравання атрыманых ад падатковых ільгот сродкаў) атрымалі 17 суб'ектаў гаспадарання. Аднак шэраг прадпрыемстваў быў вызвалены ад платы за ліцэнзію на рознічны гандаль і гандлёва-вытворчую дзейнасць.

Магчыма, стан спраў дапаможа выправіць утвараемы ў горадзе фонд фінансавай падтрымкі прадпрымальніцтва. А таксама — прыватызацыя камунальнай уласнасці. Напрыканцы мінулага года ў Мінску прыватызаваны 185 аб'ектаў, якія належалі раней гораду.

Застаецца толькі спадзявацца, што новыя іх гаспадары здолеюць больш эфектыўна імі распараджацца, атрымліваць добры прыбытак і лепш папаўняць бюджэт краіны і горада. Тады ў ім знойдуцца грошы і на аўтобусы, і на пенсіі, і на лекі, і на шмат якія іншыя неабходныя рэчы. Але і сёння недзяржаўныя прадпрыемствы, розныя камерцыйныя структуры ўносяць прыкметны ўклад у бюджэт. Так, за дзевяць месяцаў мінулага года ў яго паступіла ў выглядзе падатку на прыбытак 244,2 мільярда рублёў, у тым ліку ад сумесных прадпрыемстваў 3,1 мільярда, ад камерцыйных банкаў і страхавых арганізацый 33,3 мільярда, а ад прадпрымальнікаў, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы, — усяго толькі 0,77 мільярда. Калі раздзяліць гэтыя грошы на колькасць зарэгістраваных у горадзе прадпрымальнікаў, атрымаецца вельмі маленькая лічба. Але ж маленькія кропелькі мёду, што прыносяць у вулей пчолкі, складаюцца потым у вялікія аб'ёмы. Іншая справа, што дбайны гаспадар клапоціцца пра пчол і ніколі не забірае ўвесь мёд, што яны прынеслі, а нейкую частку пакідае ім на жыццё.

Магчыма, калі-небудзь гэту банальную ісціну ўцямяць нашы заканадаўцы. А пакуль на ўзроўні горада мясцовыя ўлады прыкладаюць значныя намаганні, каб неяк дапамагчы прадпрымальным людзям. Так, напрыклад, Мінгарвыканкам утварыў гарадскі Савет на развіццё прадпрымальніцтва, прыняў канцэпцыю выставачнай дзейнасці ў горадзе, унёс шэраг прапаноў у Вярхоўны Савет па ўдасканальванню падатковай сістэмы. Магчыма, праз нейкі час гэтыя меры дадуць пэўны вынік.

СУПРАЦОЎНІЦТВА

# БЕЛАРУСЬ УВАХОДЗІЦЬ У КРЫЦКІ ТРАНСПАРТНЫ КАЛІДОР

У Маскве адбылася сустрэча міністраў транспарту Фінляндыі, Расіі, Беларусі, Літвы, Украіны, Малдовы, Румыніі, Балгарыі і генеральнага дырэктарата па транспарту Камісіі еўрапейскіх супольніцтваў. Галоўная яе мэта — асэнсаванне маючай адбыцца рэалізацыі рашэнняў Другой агульнаеўрапейскай канферэнцыі, якая праходзіла мінулай вясной у Грэцыі на востраве Крыт. Тады, пры ўдзеле прадстаўнікоў 44 краін, у тым ліку і Рэспублікі Беларусь, была вызначана адзіная палітыка і выпрацаваны прыярытэты ў галіне мадэрнізацыі транспартнай інфраструктуры ў Еўропе. Вызначаны таксама транспартныя калідоры, адным з якіх, пад нумарам 9, названа лінія Плоўдзіў — Бухарэст — Кішынёў — Кіеў — Віцебск — Пскоў — Санкт-Пецярбург — Хельсінкі з адгалінаваннямі на Адэсу, Маскву, Мінск, Вільнюс, Клайпеду і Калінінград.

Дзелавым вынікам гэтай сустрэчы ў Маскве стала парафіраванне мемарандума «Аб узаемаразуменні па развіццю Крыцкага калідора нумар дзевяць». Паводле ацэнак нашых спецыялістаў, усё гэта трэба вітаць, паколькі намецілася вельмі выгадная трансфармацыя аўтамабільных дарог і чыгунак Беларусі ў агульнаеўрапейскую транспартную сетку. Чакаецца пры гэтым удзел міжнародных інвестараў у развіцці нашай транспартнай інфраструктуры з мэтай узняцця яе да належнага ўзроўню. Усё гэта будзе садзейнічаць расшырэнню дзелавога супрацоўніцтва паміж рэгіёнамі напрамку Поўнач — Поўдзень, далейшаму паглыбленню эканамічных і гандлёвых сувязей, стварэнню аптымальных умоў па ўсім транспартным калідоры для непасрэдных удзельнікаў перавозак.

Таццяна СМІРНОВА, БЕЛІНФАРМ.

# СУМНЫЯ ПРЫКМЕТЫ НАШАГА ЧАСУ





...Гэтыя бедныя адзінокія старыя людзі...

Здаецца, вайны не было. Здаецца, ёсць сабесы, ёсць дабрачынныя фонды і гэтак далей. Але ўсё роўна адзінокіх старых так многа на мінскіх вуліцах. Ім не хапае 200 рублёў да кошту булкі хлеба. Яны просяць грошай на тратуарах. Яны цягнуць некуды па снезе мяшкі ці то з бульбай, ці то з нейкімі рэчамі... Некаторыя з іх дайшлі да такой галечы, што, як бачыце, зазірнулі ўжо ў смеццевыя бакі. Вы бачылі і бачыце іх кожны дзень. Вы ведаеце, што ёсць шмат простых магчымасцей ім дапамагчы. І не патрабуйце нічога ўзамен, не кажыце нічога. Дапамагайце!..

Фотатрыпціх Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛІНФАРМ.

НАВІНЫ З ЭСТОНІІ

## АЛКАГОЛЬ ПАД ЖОРСТКІМ КАНТРОЛЕМ

Урад Эстоніі абавязаў міністра эканомікі рэспублікі стварыць у бліжэйшыя дні банк даных алкагольных напіткаў і выпрацаваць парадак яго вядзення. А пакуль часова прыпынена дзеянне ліцэнзій на ўвоз гарэлкі. З 31 сакавіка бягучага года будуць забаронены аптовы і рознічны продаж гарэлкі ўсіх марак, не занесеных у спіс базы даных алкагольных напіткаў.

Урад таксама абавязаў устанавіць гранічныя цэны на імпартаваныя спірт і гарэлку, якія павінны быць не ніжэйшыя за аптовую цану разам з падаткам з абароту спірту і гарэлкі, што выпрацоўваюцца ў Эстоніі. Гранічныя цэны будуць сапраўднымі да 31 сакавіка бягучага года.

## ПАЧАЎСЯ ГОД АХОВЫ ПРЫРОДЫ

Новы год па рашэнню Савета Еўропы названы агульнаеўрапейскім годам аховы прыроды. У сувязі з гэтым у Эстоніі ўжо намечаны шэраг канкрэтных мерапрыемстваў. У дзяржбюджэце рэспублікі на ахову прыроды прадугледжана 600 тысяч крон. Асноўная іх частка будзе накіравана на тое, каб прывесці ў парадак і абазначыць прыродныя аб'екты, што знаходзяцца пад аховай. Сем працэнтаў тэрыторыі Эстоніі займаюць запаведныя зоны. Аднак аматары прыроды гэтай рэспублікі маюць намер вялікую ўвагу ўдзяліць аб'ектам, якія не маюць статусу запаведніка.

## ЭСТОНСКАЯ РОТА РЫХТУЕЦЦА Ў ДАНІІ

На шасцітыднёвую папярэднюю падрыхтоўку ў Данію адбыла эстонская міратворчая рота ў саставе 40 байцоў, якая будзе накіравана для выканання місіі па падтрыманню міру ў Харватыі. Эстонскія афіцэры, прадстаўнікі малодшага афіцэрскага і радавога саставу азнаёмяцца з дацкім узбраеннем, баявой тэхнікай і амуніцыяй.

## ПА ЕЎРАПЕЙСКІХ ПРАВІЛАХ

Эстонія далучылася да Еўрапейскай энергетычнай хартыі, якая датычыць свабоднага і транзітнага гандлю ў галіне энергетыкі, абароны ўнутраных і замежных інвестараў у энергетычным сектары і шэрагу іншых спецыфічных аспектаў. З гэтага часу Эстонію прымаюць на энергетычным рынку нараўне з іншымі дзяржавамі, устаноўлены цвёрдыя правілы для энергетычных фірм. У рамках хартыі рэспубліка прадоўжыць сёлета ажыццяўленне праграмы эканоміі энергіі, што павінна садзейнічаць і паляпшэнню стану навакольнага асяроддзя. Да энергетычнай хартыі ўжо далучыліся 30 краін. З бліжэйшых да Эстоніі дзяржаў яе падпісалі Фінляндыя, Данія, Швецыя, Латвія, Расія і Украіна.

ЕСТЬ ПРОБЛЕМА

# "ТЯЖЕЛАЯ" ВОДА

Юрий ЕРОНИН, «ДВ».

**— Вода из Вилейской речной системы, поступающая по водопроводу к жителям Фрунзенского, Московского, Октябрьского районов столицы, вызывает у санитарных врачей все большую обеспокоенность. В результате интенсивного применения хлора в ней образуются хлорсодержащие углеводороды, которые гораздо вреднее, чем сам хлор. Они мутагенны и канцерогенны. В США сегодня ведется контроль за 300 хлорсодержащими углеводородами, а в странах ЕЭС — за 150. В Беларуси, и в частности в Минске, не контролируется ни один. Те, кто любит пить воду из-под крана, должны знать, что вода к тому же загрязнена вирусными паразитами, бактериями, фенолами и нефтепродуктами, поверхностно-активными веществами, тяжелыми металлами и пестицидами, — сообщил газете заведующий лабораторией Белорусского научно-исследовательского института санитарии и гигиены (БЕЛНИИСГИ) Михаил СМИРНОВ.**

Вот почему ученые этого НИИ считают, что ту воду, которая течет по нашему водопроводу, нужно называть не хозяйственно-питьевой, а хозяйственно-бытовой.

Столичная система контроля за качеством питьевой воды разрознена, носит сугубо ведомственный характер. «Минскводоканал» имеет свою лабораторию, городской центр санитарии и гигиены — свою, Академия наук Республики Беларусь также изучает все физико-химические, биологические свойства воды.

В Минске ГОСТом контролируется официально 28 обязательных показателей качества воды, а реально врачи-эпидемиологи и лаборанты «Минскводоканала» контролируют только 14. Но даже при таком чахлом контроле каждая восьмая проба, по мнению председателя постоянной комиссии Мингорсовета по экологии Михаила Фридлянда, не отвечает стандартам по химическому составу, каждая десятая опасна инфекцией. Он утверждает: если ужесточить систему контроля по ГОСТу «Питьевая вода» по европейским меркам, то ее качество на выходе из крана не будет соответствовать нормам по хлороформу и биологическим показателям на 70 процентов. Хлороформ появляется при гиперхлорировании. На свойства воды оказывает воздействие и биологическая пленка-слизь, образующаяся на стенках труб. Она и является той самой активной средой для размножения стойких бактерий и вирусов. При повышении температуры подаваемой воды возникают оптимальные условия для размножения микробов, их залповых выбросов. Дизентерия, вирусный гепатит, чума, холера — вот далеко не полный перечень заболеваний, которые грозят горожанам.

4 тысячи километров так называемых «черных» чугунных труб питают столицу водой. Известны факты, что в некоторых артезианских скважинах, снабжающих жителей Центрального, Партизанского, Первомайского, Ленинского районов столицы тоже обнаружены природное железо, тяжелые металлы, различные компоненты нефти. Об этом сообщил генеральный директор научно-производственной фирмы «Подземвод» Михаил Чабан. Легенда о чистоте подземной воды в Минске оказалась сильно преувеличенной. Предприниматели, попытавшиеся продавать ее за границу, с первых шагов потерпели неудачу из-за наличия в ней набора этих химических соединений, изменяющих состав крови человека.

Где же выход из положения?

В странах Западной Европы вот уже три десятилетия подряд воду прямо из-под крана для питья и приготовления пищи не употребляют. Везде и повсюду применяются водоочистительные системы — фильтры. Кроме того, продавцы питьевой воды из Испании и Франции (а там она берется из горных рек) легко победили своих конкурентов в Беларуси. В этом можно легко убедиться и у нас в Минске, заглянув в столичные коммерческие ларьки и магазины, где появилась в продаже чистая питьевая вода, а нашей — нет.

Следует особо сказать о бытовых индивидуальных фильтрах. В мире насчитывается более 30 тысяч видов бытовых водоочистительных устройств. Около 40 их модификаций и типов появилось на нашем рынке.

Как утверждают руководители экологической комиссии Мингорсовета, большинство иностранных фильтров вообще не подвергалось экспертизе, которую проводит по заказу Минздрава Республики Беларусь Московский НИИ экологии человека и гигиены окружающей среды имени Сысина. А отечественные фирмы, торгующие зарубежными фильтрами, ссылаются на то, что уже имеют результаты экспертизы, проведенной на родине товара. Но дело в том, что наш «чернобыльский» тип воды существенно отличается от западноевропейского. Как правило, импортные фильтры не в состоянии очистить нашу сверхзагрязненную воду даже до нормального уровня и потому для белорусских условий не предназначены.

Эксперт по водоснабжению, заместитель генерального директора НПФ «Подземвод» Наталья Базалева сообщила нашей газете:

-- Поскольку иностранные фильтры, как, впрочем, и многие отечественные, не предусмотрено использовать для обеззараживания воды, на их мембранах через месяц-другой эксплуатации начинается размножение бактерий. И тогда вода после такого фильтра гораздо грязнее, чем до него. Некоторые дорогие зарубежные фильтры настолько сильно чистят воду, что превращают ее в дистиллят. Отсутствие в воде кальция, магния, фтора и многих других микроэлементов еще вреднее, чем плохо очищенная вода...

...Поэтому, как видите, прежде чем купить фильтр, необходимо проконсультироваться у специалистов-экологов **(контактный телефон в Минске 33–95–40).**

Как правило, многие модификации фильтров очень дорого стоят — от восемнадцати долларов до трех тысяч. Кому такое удовольствие по карману, судите сами. Но как и где отыскать эффективное водоочистительное устройство, чтобы оно было и дешевым, и долговечным?

Леонид Путырский — доктор медицинских наук, профессор, член-корреспондент международной славянской Академии наук — проинформировал «ДВ»: «В Минске появились в продаже фильтры «Роса», созданные из лечебных минералов, для семьи, для больниц, столовых, ресторанов. Имеются в продаже и фильтры промышленные, производительностью 5 кубов в час. Начинку для них ученые отыскали в курортных зонах России, Беларуси, где лечебные источники известны многие сотни лет. Вода, пропущенная через «Росу», не только хорошо очищена, но и слабо минерализована. Клиническими испытаниями установлено: излечиваются все виды аллергии, включая бронхиальную астму, проходит пародонтоз, разрушаются и выходят камни из почек. Облегчается состояние при желудочных заболеваниях и заболеваниях печени, улучшается состояние кожи. Особенность фильтров состоит в том, что они легко восстанавливаются — отмываются средствами, имеющимися у каждой хозяйки на кухне: поваренной солью и содой.

Из России на белорусский рынок попало 100 видов бытовых фильтров, но 80 из них не отвечают необходимым требованиям. Из оставшихся 20 специалисты БЕЛНИИСГИ отметили несколько, которые не только полностью очищают, но и обеззараживают нашу воду. Это «Бип», «Барьер-3», «Барьер-4», которые, кстати, закупают Франция, Греция, Иордания. Эти фильтры изготовлены из волокнистых сорбентов с использованием элементов космической технологии. Предназначены для очистки воды из водопровода, водоемов, колодцев и рек от болезнетворных бактерий, вирусов, хлора, железа, нитратов, фенола, радионуклидов. Устройство очищает воду от железа, цезия, стронция на 80-100%; от химикатов, используемых на полях, — на 96-98%; от содержания остаточного хлора — на 95%, кишечную палочку, яйца глистов и, что актуально, вибрион холеры удаляет тоже на 100%, улучшает показатели качества питьевой воды по запаху, мутности на 85-100%.

Все эти типы фильтров можно приобрести в ПФ «Подземвод».

**Контактные телефоны: 33–95–40, 36–26–87, 64–40–20.**

## ПРЫМЯНЕННЕ «ЧОРНЫХ» ТРУБ ЗАБАРАНЯЕЦЦА

**У Мінгарсавеце на пасяджэнні экалагічнай камісіі разгледжаны пытанні якасці пітной вады ў Кастрычніцкім, Маскоўскім, Фрунзенскім раёнах сталіцы. Спецыялісты «Мінскводаканала», мінскага гарадскога цэнтра санітарыі і гігіены, Беларускага НДІ санітарыі і гігіены Мінздрава Рэспублікі Беларусь прыйшлі да высновы: хлормутагенная актыўнасць у пітной вадзе не ўлічваецца састарэлымі дзяржаўнымі стандартамі, па біялагічных паказчыках пасля ўвядзення новага дзяржаўнага стандарту яна не будзе адпавядаць міравым на 60–80%.**

**У новых мікрараёнах у кватэрах вырашана ўстанавіць за кошт дзяржбюджэту бытавыя індывідуальныя фільтры.**

**Аб'яўлены конкурс па вытворчасці айчыннай сістэмы водаачысткі.**

**Экспертызу фільтраў даручана правесці Беларускаму інстытуту санітарыі і гігіены.**

**У водаправоднай сетцы забаронена прымяненне «чорных» труб з чыгуну, дзе пітная вада псуецца, ператвараецца ў бытавую.**

## ІНФАРМАЦЫЯ ДА РОЗДУМУ

**Выснова ўрачоў-эпідэміёлагаў рэспубліканскага цэнтра санітарыі і гігіены — ні на адным прадпрыемстве мінскага харчгандлю (у сталовых, рэстаранах, кафэ, а таксама дашкольных дзіцячых установах) вада для прыгатавання ежы не фільтруецца бытавымі сістэмамі водаачысткі. Кіпячэнне не вызваляе ваду ад злучэнняў хлору, ад кампанентаў нафты і хімікатаў з палёў, што трапляюць у водаправод.**

**У Барысаве, напрыклад, бытавымі індывідуальнымі фільтрамі карыстаецца амаль кожная сям'я. У Мінску ж са 100 фільтр для водаачысткі набывае толькі адна сям'я. А ў пасёлках Мінскай вобласці на 100 двароў прыпадае толькі адзін фільтр.**

ЭКАНАМІЧНЫЯ ВЕСТКІ

## ПРАПАНОВА, НАД ЯКОЙ УРАД ЗАДУМАЎСЯ...

Прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір атрымаў ліст ад кіраўніцтва Расійскай дзяржаўнай акцыянернай кампаніі «Транснафтапрадукт» і акцыянернага таварыства адкрытага тыпу «Сіданканафтапрадукт» з прапановай аб стварэнні на тэрыторыі Беларусі сумесных прадпрыемстваў па рэалізацыі светлых нафтапрадуктаў.

Як адзначаецца ў лісце, да трубаправодаў, размешчаных на тэрыторыі Беларусі, па якіх можна пастаўляць да 2,5 мільёна тон светлых нафтапрадуктаў штогод, падключаны дзесяць нафтабаз канцэрна «Белнафтапрадукт». У цяперашні час гэтая сетка загружана не цалкам, а пастаўкі нафтапрадуктаў па чыгунцы ў 1,5 раза даражэй, чым па трубаправодзе.

Урад Беларусі даручыў адпаведным міністэрствам і ведамствам вывучыць магчымасць стварэння на тэрыторыі рэспублікі сумесных прадпрыемстваў з удзелам беларускіх арганізацый па рэалізацыі нафтапрадуктаў з рэсурсаў «Сіданканафтапрадукта» і іншых экспарцёраў.

Яўген ГРУБІЧ, БелаПАН.

## ГАЗ АТРЫМАЎ АДМОВУ

Каля дзесяці гадоў адпаведныя падраздзяленні транспартнай галіны рэспублікі шукалі для выкарыстання від паліва, альтэрнатыўнага нафтаваму. Быў узяты курс на пераабсталяванне карбюратарных аўтамабіляў у газабалонныя, якія прымяняюць у якасці гаручага сціснуты прыродны газ. І вось цяпер застаецца толькі шкадаваць аб зробленым, аб каласальных сродках, укладзеных у будаўніцтва вялікай сеткі газазапраўчных станцый, набыцці дарагога абсталявання.

Справа ў тым, што цэны на сціснуты прыродны газ і бензін у Беларусі практычна ўраўняліся. Дзяржаўнае прадпрыемства «Белтрансгаз» не хоча ісці насустрач аўтатранспартнікам, як робяць на Захадзе і нават у Расіі, дзе гэта паліва для аўтамабіляў прадаецца ўдвая танней, чым бензін.

Таццяна СМІРНОВА, БЕЛІНФАРМ.

## «БЕЛАРУСЬ — ПЕРВАЯ ТРАНЗИТНАЯ СТРАНА ДЛЯ РОССИЙСКОГО ЭКСПОРТА»

Ситуация, возникшая вокруг утверждения госбюджета на 1995 год, стала главной темой пресс-конференции представителей парламентской фракции Белорусской социал-демократической Громады.

Как известно, БСДГ разработала и представила депутатам свой проект Государственного бюджета, некоторые статьи которого значительно отличаются от правительственного варианта. В первую очередь социал-демократы предлагают частично снять бремя налогов с белорусских граждан и около 30 процентов поступлений в государственную казну формировать за счет транзитных отчислений и других источников, связанных с удобным геополитическим положением страны. В сегодняшнем бюджете, как сообщил заместитель председателя комиссии по экономической реформе Виктор Алампиев, поступления от этой статьи составляют только 3-5 процентов, а в проекте Кабинета министров стремления к ее увеличению не видно. «Чрезвычайно удобное географическое расположение Беларуси — это один из главных наших ресурсов, и его нельзя транжирить», — заключили участники пресс-конференции.

По расчетам аналитиков Громады, в случае принятия их варианта бюджета уже к концу 1995 года средняя зарплата в Беларуси достигнет 100 долларов. Эти расчеты не взяты «с воздуха», а подтверждены примерами прибалтийских стран и Польши.

Юрий ЛЕШКЕВИЧ, РИД.

